НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



*Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук*

# Цена дыхания войны

Российско-украинский кризис, перешедший в действия военного характера со стороны России, обрушил российский рубль, который и так перед этими событиями заметно девальвировался. На Московской бирже рубль с начала недели преодолел планку 37 единиц за доллар, евро достиг уровня 51,2 рубля. Стоимость бивалютной корзины (весы: 0,55 — доллар и 0,45 — евро) достигла 43,2 рубля. Она вышла за верхнюю границу валютного коридора, установленного Центробанком России на уровне 42,2 рубля. В обменниках Москвы курс доллара добирался до 37,6 российского рубля, курс евро — до 52,6. Это исторические минимумы курса российского рубля. Для спасения рубля Центробанк России пошел на экстренные меры. Он повысил свою базовую ставку с 5,5% до 7%, начал сдерживать падение рубля массированными интервенциями на валютной бирже, продав на торгах порядка 10 млрд долларов. В результате российский рубль несколько "отыграл" свои курсовые позиции.

Всем понятно, что обвальная девальвация российского рубля вызвана не столько экономическими причинами (хотя и они имеют место), сколько событиями в Украине. Особенно после формального решения Совета Федерации России разрешить Путину ввести российские войска в Крым. США тотчас же прервали с Москвой всякое экономическое и торговое сотрудничество. Так же поступили другие ведущие страны Запада. Они решили приостановить подготовку к запланированному в Сочи саммиту G-8 — заседанию глав государств Большой восьмерки, куда входит и Россия. Кремлю пригрозили экономическими санкциями. Все эти события вызвали масштабную утечку капиталов из России. На Московской бирже индекс ММВБ опустился на 9,55%, индекс РТС — на 10,76%. Данные интегральные индексы оперативно реагируют на общее состояние российской экономики и ее финансового рынка.

Произошел серьезный обвал на российском рынке акций. Акции "Газпрома" потеряли 11,1%, АФК "Система" — 18,1%, "Мечела" — на 28,4% и т.д. Аналитики оценивают обвал на российском фондовом и товарном рынках, который вызван решением ввести войска в Украину, в 55 млрд долларов, что больше, чем было потрачено на организацию самых дорогих зимних Олимпийских игр в Сочи.

На российско-украинский военно-политический кризис отреагировали и мировые финансовые рынки. Индекс Токийской фондовой биржи Nikkei снизился на 1,27%, индекс Гонконгской биржи Hang Seng — на 1,5%. Польский индекс WIG20 обвалился на 4%, венгерский BUX — на 4,5%. Упали котировки европейских компаний с большим присутствием в России и Украине. Акции немецкой фармацевтической компании Stada подешевели на 7%, датского пивоваренного концерна Carlsberg — на 6%. Акции австрийского Raiffeisen Bank International потеряли почти 11% стоимости. Упали в цене суверенные еврооблигации России и Украины, а риск дефолта этих ценных бумаг по оценке рынка возрос.

Естественно, отмеченные события не пройдут бесследно для экономики России. Ожидается дальнейшее сжатие внутреннего спроса на всех рынках страны. Как это отразится на экономике Беларуси — хорошо было видно уже в прошлом году. Девальвация российского рубля еще в большей мере ухудшит конкурентоспособность белорусского экспорта. Особенно его инвестиционной составляющей — тракторов, МАЗов, БелАЗов, станков, продукции сельхозмашиностроения. Нам светит сокращение по этим и другим позициям валютных поступлений и усиление давления на белорусский рубль.

Белорусские экспортеры уже начали испытывать трудности со сбытом своей продукции на украинском рынке. Товарооборот с Украиной не чета товарообороту с Казахстаном, тенге которого девальвировался на 19%. Гривна к настоящему времени просела к доллару с 8,7 до 11 и более единиц. Товарооборот с Украиной в 2013 году превысил 6 млрд долларов, импорт достиг 2 миллиардов. С начала февраля приостановил поставки своей техники в Украину Минский автозавод. Упали продажи белорусской молочной продукции. Будет ли в состоянии Украина покупать в прежних объемах белорусские нефтепродукты, которые занимали до трети рынка страны, тоже вопрос. Запад обещал ей предоставить оперативную финансовую помощь. Но она скорее всего будет направлена на обеспечение выплат пенсий, зарплат бюджетникам и на другие социальные нужды.

Какова же реакция белорусских властей на цепную девальвацию валют ближайших экономических партнеров нашей страны, особенно на девальвацию российского рубля и падение рынков России? По большому счету — никакая! Нет с их стороны ни экономических, ни политических, никаких других заявлений и шагов. Как будто ничего не происходит. Среднемесячное падение белорусского рубля к доллару остается 120 единиц. Каждые валютные торги доллар прибавляет по 10 рублей, евро — побольше. Так, по итогам торгов на бирже 4 марта курс доллара составил 9780 рублей, евро — 13.460. Курс российского рубля к белорусскому — 269,5. Белорусский рубль даже крепчает по отношению к российскому тезке. Не так давно он был и 280. Он не желает пикировать вместе с ним. Поэтому на валютном рынке относительное спокойствие. Денежные власти предпочитают не делать резких движений. Но белорусское *"лишь бы не было войны"* сегодня во всех смыслах не подходит. К тому же год белорусская экономика начала скверно.

За первый месяц валютная выручка сократилась до минимума и составила 3,18 млрд долларов. Меньше было только в кризисном 2011 году. Объем промышленного производства по сравнению с январем прошлого года снизился на 7,1%, выпуск сельхозпродукции сократился на 2,8%, а складские запасы готовой продукции выросли на 4 трлн рублей. ВВП — в минусе. Это признаки того, что экономика из стадии стагнации (застоя) переходит в стадию рецессии (падения). К слову сказать, вслед за российской. И падать, похоже, они будут по схожей траектории. А объяснение на этот счет будет готово: так ведь была война! Одно точно: безрассудные действия Путина (а остановить или осудить его в российском руководстве не нашлось ни одного официального лица) вернули нас в состояние холодной войны, от которой до горячей — один шаг. В состояние, в котором мое поколение прожило не один десяток лет. Поверьте, молодые белорусы, в этом нет ничего хорошего. И если что, мы никак не останемся в стороне.

**P.S. В ответ на действия России в Крыму США отправили в Черное море авианосец с семнадцатью кораблями сопровождения и три субмарины, на борту которых находятся ядерные ракеты.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Віны не прызнала

*Завершана расследаванне крымінальнай справы супраць былога дырэктара фабрыкі "Слодыч"* ***Таццяны Селіх.*** *Матэрыялы справы перададзены пракурору для накіравання ў суд.*



*"Устаноўлена, што дырэктар фабрыкі дала загад набыць за кошт прадпрыемства ў камерцыйнай фірмы спецыяльнае падслухоўваючае і гуказапісваючае абсталяванне і ўстанавіла яго ў службовых памяшканнях. Пры гэтым уся інфармацыя пра размовы супрацоўнікаў акумулявалася на камп'ютары кіраўніка фабрыкі, што з'яўляецца парушэннем таямніцы тэлефонных і іншых размоў",* — паведаміў прадстаўнік упраўлення Следчага камітэта па Мінску **Аляксандр Герасімаў.**

Экс-дырэктару прад'яўлена абвінавачванне па трох артыкулах Крымінальнага кодэкса: незаконнае набыццё сродкаў для негалоснага атрымання інфармацыі, злоўжыванне ўладай альбо службовымі паўнамоцтвамі, парушэнне таямніцы тэлефонных перамоў. Максімальнае пакаранне, якое ёй пагражае, — да 10 гадоў калоніі з канфіскацыяй маёмасці.

*"Падчас расследавання абвінавачаная адмовілася ад супрацоўніцтва з органамі крымінальнага перасследавання, рабіла спробы перашкодзіць дзеянням следчых і не прызнавала сваёй віны ў інкрымінуемых ёй злачынствах.*

*Пры гэтым па справе дапытана больш за 50 сведак і пацярпелых, атрыманы заключэнні па ўсіх экспертызах, у тым ліку па канфіскаваным абсталяванні для праслухоўвання, сабраны іншыя доказы",* — адзначыў Герасімаў.

Акрамя таго, падчас следства фабрыка "Слодыч" заявіла іск аб кампенсацыі шкоды ў памеры 202 мільёнаў рублёў. Былі выяўлены арганізацыйныя і фінансавыя парушэнні з боку дырэктара. Па гэтых фактах праводзяцца дадатковыя праверкі.

Затрыманне Таццяны Селіх адбылося ў снежні 2013 года. Яна ўзначальвала прадпрыемства з красавіка 2009 года.

SOS!

# У Магілёве на беларускай мове па-ранейшаму навучаецца толькі адна школьніца

*Хто ў гэтым вінаваты — бацькі, дзяржава, грамадства?*

Пра Ялінку Салаўёву "Народная Воля" пісала неаднойчы. І не выпадкова. Здавалася б, такога быць не можа: у Магілёве, дзе жыве 375 тысяч чалавек, 87% з якіх паводле перапісу 2009 года — беларусы, на роднай мове навучаецца... толькі адна-адзіная дзяўчынка — Ялінка Салаўёва. І такая сітуацыя доўжыцца ўжо некалькі гадоў. Бацькі як быццам намагаюцца знайсці для Ялінкі аднакласнікаў, але, бачыце, нічога не атрымліваецца.



— Яшчэ гэты навучальны год не скончыўся, а мы ўжо думаем пра наступны, — кажа бацька Ялінкі **Зміцер Салаўёў**. — Падстаў для турбот хапае. Па-першае, ці будзе ў Ялінкі ў далейшым магчымасць наведваць школу? Зараз зачынілі будынак, дзе месціліся пачатковыя класы. Усе 1—4-я класы перавялі ў галоўны корпус, а там плошчаў не хапае, дзеці навучаюцца ў дзве змены. Зачынілі будынак быццам з той нагоды, што ён патрабуе рамонту, адмысловае прадпісанне выдала санстанцыя. Але ходзяць чуткі, што яго камусьці перададуць... Я хаджу па інстанцыях, высвятляю, што да чаго, бо, калі ў школе не будзе хапаць плошчаў, то, вядома ж, 5-ы клас для адной Ялінкі арганізоўваць наўрад ці стануць.

**— Не верыце, што могуць знайсціся дзеці, якія захочуць у старэйшых класах вучыцца з Ялінкай? Нават хаця б дзеля таго, што лепей жа асвойваць праграму, калі ў класе два, тры ці пяць чалавек, а не 25…**

— Можа, хто і прыйдзе. Я думаў, калі дзіця ў пачатковай школе прывыкла да настаўніцы, і да калектыву, не хочацца яго зрываць і аддаваць у другі клас. А вось з 5-га класа, калі пачнецца сярэдняя адукацыя і выкладаць будуць розныя настаўнікі, можа, і знойдуцца бацькі, ахвочыя аддаць дзіця ў беларускамоўны клас. Бо гэта была б сапраўды добрая магчымасць больш паглыблена вывучаць той ці іншы прадмет. Як прыклад магу прывесці дасягненні Ялінкі. У мінулым годзе яна стала пераможцай на школьнай алімпіядзе па ўсіх прадметах. Была першая і па беларускай мове, і рускай мове, і па матэматыцы. Па прадмеце "Чалавек і свет" заняла другое месца. Атрымаўся нават прэцэдэнт. Настаўніца так званага "элітнага" класа заявіла, што не можа Ялінка па рускай мове мець лепшы вынік, чым яе вучні. Работы пераправерылі. І ўсё пацвердзілася. Ялінка была, безумоўна, лепшай...

**— Зміцер, чаму, на ваш погляд, менавіта ў Магілёве такая патавая сітуацыя з беларускай мовай у школах?**

— Не думаю, што ў Магілёве людзі супраць беларускай мовы. Гэта — агульная для ўсёй краіны праблема. Бацькі не вераць у будучае мовы. Абывацель разважае так: вось англійская ў час глабалізацыі яшчэ як спатрэбіцца! А беларуская? Усе нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы спрэс рускамоўныя. Калі Ялінка хадзіла яшчэ ў дзіцячы садок, з ёю ў групе было шасцёра дзетак. А ў першы беларускамоўны клас толькі мы аддалі Ялінку. Астатнія палічылі, што калі дзіця будзе вучыцца па-руску, у яго будзе больш магчымасцяў у жыцці.

Становішча з выкладаннем на роднай мове на Магілёўшчыне сапраўды жахлівае. Толькі ў адным (!) раённым цэнтры вобласці — Асіповічах — ёсць беларускамоўная школа. У Горках — два беларускамоўныя класы. У Бабруйску — другім па колькасці насельніцтва горадзе Магілёўшчыны — няма не тое што беларускамоўнай школы — ніводнага класа, дзе б вучыліся па-беларуску. У абласным цэнтры быў раней беларускі ліцэй, дзе ўсе прадметы выкладаліся па-беларуску. Але ўжо гадоў дзесяць, як установа стала цалкам рускамоўнай. Бацькі ў некаторых райцэнтрах мусяць вазіць дзяцей у вясковыя школы, дзе яшчэ захоўваецца выкладанне на роднай мове.

**— Вы ўзначальваеце абласную арганізацыю Партыі БНФ. Магчыма, вы і вашы паплечнікі недапрацоўваеце? Вашы аднадумцы могуць пахваліцца высокім аўтарытэтам сярод мясцовых жыхароў? Пагадзіцеся, калі б сябры БНФ ды калегі з іншых дэмпартый, актывісты грамадскіх арганізацый, усе тыя, хто прылічвае сябе да беларускай інтэлігенцыі, перакаcналі б хаця некалькі сем'яў аддаць сваіх дзетак у беларускамоўны клас, — гэта быў бы прыклад!**

— Вы дапускаеце, што мы з бацькамі не размаўлялі? Не ведаю, якія яшчэ прыводзіць ім аргументы на карысць роднай мовы. І асобныя прыватныя гутаркі мелі, і акцыі вулічныя рабілі, і ўлёткі на школьных кірмашах раздавалі. Акцэнтуем увагу на практычных поспехах беларускамоўнага навучання. Дапамагаем зразумець, калі ў класе вучняў няшмат, настаўнік працуе літаральна з кожным, не трэба дарагіх рэпетытараў: дзецям, якія з маленства валодаюць дзвюма мовамі, лягчэй даюцца замежныя. Але... жадаючых прыслухацца чамусьці няма.

**— А з чыноўнікамі ад адукацыі спрабавалі разам працаваць?**

— Прызнаюся, размаўляць з імі, быццам біць ілбом аб сценку. Напрыклад, хадзілі мы ў аддзел адукацыі, прасілі даць магчымасць выступіць на бацькоўскіх сходах у школах. Не дазволілі. Адзіная іх праца ў гэтым плане: аб'ява на сайце, маўляў, у горадзе існуе беларускамоўны клас... Але хто заходзіць на гэты сайт?

З іншага боку, мяркую: людзі самі павінны рабіць свой выбар на карысць роднай мовы. Калі няма ахвоты і пераканансці з боку бацькоў, што беларускамоўнаму дзіцяці лепш навучацца па-беларуску, ніякія захады, нават самыя радыкальныя, не дапамогуць. Ініцыятыва павінна ісці знізу і падмацоўвацца зверху.

СЛОВА НАСТАЎНІКА

*Наталля АРЖАНАВА, настаўніца Ялінкі Салаўёвай:*

## «Гэта адгалосак пачатку дзевяностых»

— Ялінка — вельмі здольная вучаніца, з лагічным мысленнем. Асабліва лёгка даецца ёй матэматыка, — кажа Наталля Аляксандраўна. — Дзяўчынка сціплая, засяроджаная, займацца з ёю — задавальненне. Але мяне, прызнацца, турбуе яе далейшы лёс.

Размаўляла з дырэктарам школы, яна запэўніла: калі бацькі Ялінкі будуць настойваць на далейшым навучанні на беларускай мове, выкладчыкаў для яе знойдуць. Кодэкс аб адукацыі гэтае права гарантуе. Але... Ці добра з пункту гледжання псіхалогіі, калі дзяўчынка займаецца адна?

Ялінка вельмі хоча да дзяцей. Я бачу, як яна чакае перапынку, каб пабегчы ў іншы клас, куды ходзіць на ўрокі англійскай мовы і фізкультуры. Там у яе сяброўкі, агульныя інтарэсы. Яна нават стала пратэставаць супраць навучання ў адзіноце. У мінулым годзе Ялінка перамагала амаль на ўсіх алімпіядах для трэцякласнікаў. У гэтым жа заняла... апошняе месца. І не таму, што не знаходзіла адказаў, а таму, што проста не хацела адказваць. І нават па беларускай мове не стала пераможцай, хаця ў мяне няма сумневу, што гэты прадмет яна ведае лепш за ўсіх чацвёртакласнікаў! Але за такі, можна сказаць, нават ціхі пратэст — нулі замест адзнак.

Дзіця павінна навучацца з дзецьмі! Гэта і камунікацыя, і канкурэнцыя. А што такое адна ў класе? Урок цягнецца павольна, няма духу спаборніцтва, як у звычайным класе. І гэта не на карысць вучню.

**— Чаму школа, настаўнікі, адміністрацыя не спрыяюць таму, каб Ялінка не была адна ў класе? Пагадзіцеся: гэта не толькі справа яе бацькоў.**

— Як гэта не спрыяюць? Колькі мы праводзілі гутарак, нават угаворвалі бацькоў аддаваць дзяцей у беларускамоўны клас, гатовы былі пайсці на любыя саступкі. Скажам, адзін хлопчык, які хацеў вучыцца па-беларуску, але Ялінка ўжо заканчвала 1-ы клас, ён жа толькі ішоў у школу. Я гатова была займацца з ім усё лета, каб ён адразу навучаўся ў 2-м класе, і адміністрацыя школы была не супраць. Але спатрэбіліся нейкія даведкі і гэтак далей... Не атрымалася.

Цяжка прызнаваць, але не хочуць бацькі аддаваць дзяцей у беларускамоўныя класы...

**— Чаму так адбываецца? Можа, ёсць сэнс звярнуцца да адміністрацыйнага рэсурсу, напрыклад, адкрываць хаця б адзін беларускамоўны клас у кожнай школе?**

— Аднойчы ўжо паспрабавалі рабіць падобным чынам. Мне падаецца: тое, што сёння так мала жадаючых вучыцца па-беларуску — гэта адгалосак пачатку дзевяностых, калі школы рабілі беларускімі не заўжды паводле запатрабаванасці. Я тады была класным кіраўніком, у маім класе было 10 чалавек. Усе пасля школы паступілі ў рускамоўныя тэхнікумы, універсітэты, і ім спачатку было складана перабудоўвацца. Сёння, падаецца, адна з прычын выцяснення са школы беларускай мовы ў тым, што бацькі не бачаць перспектывы навучання на ёй. Ва ўніверсітэтах — руская мова, паўсюдна — руская. І пакуль у людзей не будзе разумення, што беларуская мова — наша найвялікшая каштоўнасць, гэта менавіта **наша** мова, нічога не зменіцца.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

### Ад рэдакцыі

**Катастрофа! У беларускамоўным класе ўжо не першы год толькі адна вучаніца…**

**І гэта ў тым горадзе, дзе рэктарам універсітэта доўгі час працаваў галоўны лукашэнкаўскі ідэолаг — Аляксандр Радзькоў, які сёння вядзе "Белую Русь" у светлае будучае. Пра якое будучае можна марыць, калі ў краіне плодзяцца манкурты хутчэй, чым прусакі ў няволі?!**

**Пра якую незалежнасць, які суверэнітэт гаворыць Аляксандр Лукашэнка, калі хутка на нашай зямлі не будзе ніводнага беларуса з веданнем беларускай мовы?!**

**Пра якую нацыянальную адметнасць можна сцвярджаць, калі вось-вось знікнуць яе апошнія рысы?!**

**А можа, гэтага толькі і дабіваецца сённяшняя кіруючая эліта?!**

**Нельга не сказаць і пра ролю палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, розных суполак у выпраўленні ганебнай моўнай сітуацыі ў краіне. Чаго яны вартыя, калі ўсе разам не могуць знайсці для Ялінкі хаця б некалькі жадаючых далучыцца да яе? Хто ж, як не яны, павінны актыўна, з напорам весці тлумачальна-выхаваўчую працу сярод насельніцтва, паказваючы асабісты прыклад? Хутчэй за ўсё за агульнай балбатнёй хаваецца элементарнае бяздзеянне, абыякавасць да праблемы з праблем, без вырашэння якой дзяржаўная незалежнасць Рэспублікі Беларусь хутка можа стаць пустым блефам. І не выключана верагоднасць таго, што пасля гэтага яна, незалежнасць, будзе адрынута як ссеклы лісток. Няўжо мы такога хочам? Не дай Бог, праспім усё на свеце — і найперш самае дарагое — суверэнітэт дзяржавы!**

**У рэшце рэшт, а ці ж не справа гонару кіраўніцтва ГА "Таварыства беларускай мовы", ГА "Таварыства беларускай школы" скіраваць усе высілкі на вырашэнне "праблемы Ялінкі Салаўёвай"? І не яе адной. Праблема тычыцца тысяч і тысяч беларускіх дзетак, а фактычна — будучыні Беларусі.**

ВЕРСІЯ МАСКВЫ

## Зноў сяброўства?

Акцыянеры расійскага ААТ "Уралкалий" і кіраўніцтва Беларусі рыхтуюцца да перамоў аб аднаўленні партнёрства. Пра гэта паведаміла расійскае выданне "Коммерсант" са спасылкай на неназваныя крыніцы.

Новыя акцыянеры "Уралкалия" 5 сакавіка ўпершыню публічна выказаліся наконт наступных адносін паміж кампаніяй і ААТ "Беларуськалій", сумесны трэйдынг з якім "Уралкалий" разарваў яшчэ ў ліпені 2013 года. Кіраўнік "Анексима" (27,09% акцый "Уралкалия") Дзмітрый Разумаў заявіў Reuters, што аднаўленне супрацоўніцтва *"гуляе на руку"* абедзвюм кампаніям *і "будзе карыснае для сусветнага рынку ўгнаенняў".*

Як пацвердзіла крыніца "Коммерсанта", знаёмая з сітуацыяй, акцыянеры "Уралкалия" і кіраўніцтва Беларусі разглядаюць магчымасць аднаўлення супрацоўніцтва і плануюць у канцы сакавіка — напачатку красавіка правесці перамовы. Паводле яго слоў, сустрэча пройдзе з удзелам Аляксандра Лукашэнкі.

За перамовы выступаюць абодва ключавыя саўладальнікі "Уралкалия", якія стаяць на агульнай пазіцыі, запэўнівае іншая крыніца выдання, блізкая да кампаній.

Расійскі бок, паводле звестак крыніц "Коммерсанта", прапануе стварыць новага адзінага пастаўшчыка для "Уралкалия" і "Беларуськалія" ў Маскве, з долямі 65% і 35% адпаведна, *"але пакуль гэты варыянт беларусаў не задавальняе".*

Такая схема працавала да 2005 года, нагадвае выданне. Тады "Беларуськалій" прадаваў большую частку прадукцыі праз маскоўскае ЗАТ "Международная калийная компания" (па 33% акцый належалі беларусам, "Уралкалию" і "Сильвиниту"). У 2012 годзе "Уралкалий" ужо прапаноўваў перавесці трэйдара ў іншую юрысдыкцыю або стварыць новага, каб знізіць краінавыя рызыкі і прыцягваць інвестыцыі. Бакі абмяркоўвалі праект "Союзкалий" у Швейцарыі, але ён не быў рэалізаваны.

Пасля разрыву сумеснага трэйдынгу "Уралкалию" ўдалося захаваць значную частку рынку. Але апошнім часам "Беларуськалій" пачаў актыўную працу па пошуку спажыўцоў. У лютым ён заключыў кантракт з Інданезіяй (па 250 тыс. тон у год цягам трох гадоў), з Кітаем (600 тыс. тон да ліпеня), з Малайзіяй і нават на расійскім рынку (з "Фасагра"). Паводле слоў аднаго з суразмоўцаў "Коммерсанта", Беларусь спрабуе выкарыстаць рост долі на рынку ў якасці аргумента для пашырэння долі ў будучым СП.

ПАЗІЦЫЯ МІНСКА

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## «Гэта поўная хлусня!»

Інфармацыю пра стварэнне ў Маскве сумесных кампаній па продажы калійных угнаенняў абверг **Аляксандр Лукашэнка.**

*"У апошні час у СМІ з'явіліся ўкіды пра тое, што беларусы з расіянамі ледзь не аднавілі сумеснае прадпрыемства па продажах і ледзь не ствараюць новую кампанію з рэгістрацыяй у Маскве. Хачу адназначна сказаць, што гэта поўная хлусня!"* — заявіў учора Аляксандр Лукашэнка на нарадзе па пытанні эфектыўнага функцыянавання калійнай галіны.

*"Ніякіх замежных кампаній мы ствараць не будзем. Мы навучаны горкім досведам работы",* — заявіў ён.

В письме нашего читателя Г.С.Бурвана из Пинска, опубликованном в "Народной Воле" за 4 марта под заголовком "Фарисейство государства ведет к деградации общества", к сожалению, допущена опечатка. Последнее предложение в 4-й колонке следует читать в такой редакции: *"И чем дальше оно будет висеть над нами, тем* ***болезненнее*** *будет возрождение, вступление на путь цивилизации, по которому нас отказались вести 20 лет назад".*

Приносим извинения читателям и автору публикации.

## Аддалі больш за 32 тысячы долараў

З 2008-га па 2012 год 36-гадовы жыхар Мінскага раёна, з'яўляючыся спачатку дырэктарам ТАА "Еврамодуль-строй", а затым намеснікам дырэктара фірмы "Ралет-мантаж", узяў у 16 баранавіцкіх прадпрымальнікаў грошы на выраб і ўстаноўку гандлёвых ралетаў. Прадпрымальнікаў чамусьці не насцярожыла, што грошы мужчына браў наяўнымі, а не патрабаваў пералічыць іх на разліковы рахунак фірмы. І ў распісках, якія ён пакідаў ІП, пісаў, што бярэ сумы ў доўг, а не на выраб і ўстаноўку ралетаў.

Агульная сума, якую атрымаў вынаходлівы прадпрымальнік, склала больш за 32 тысячы долараў (у пераліку па курсе Нацбанка на 3 сакавіка 2014 года).

О ТОМ, ЧТО ВОЛНУЕТ

# Конец атомной эры или продолжение?

Базовым энергоносителем сначала была энергия воды и ветра, затем, после первой промышленной революции (начавшейся в последней трети XVIII века и длившейся весь XIX век), уголь и нефть.

Еще в недавнем прошлом, в 70-е годы минувшего столетия, преобладал оптимистичный взгляд, что базовым энергоносителем в самую ближайшую перспективу станет ядерная энергия, производство которой тогда быстро нарастало. Но аварии на станциях "Три-Майл-Айленд" в США в 1979 году и особенно на Чернобыльской АЭС в СССР в 1986 году показали реальные риски и несовершенство ядерных энергетических технологий. Возникшее тогда экологическое движение видело будущее энергетики в возобновляемых источниках энергии, таких как ветер, солнце и тепло Земли.

Сегодня в структуре мировой энергетики уже нельзя выделить базовый энергоноситель: выросла доля газа и возобновляемых источников энергии, снизились доли угля и нефти, нет роста атомной энергетики.

На фоне угрозы скорого исчерпания запасов углеводородов, роста стоимости их добычи и транспортировки, отсутствия новых технологических прорывов в традиционной энергетике конкурентоспособность возобновляемых источников энергии стала увеличиваться. Как же на этом фоне выглядит наша Беларусь? Почему, невзирая на Чернобыль, она начала строительство АЭС?

Конец атомной эры? Нет, для нашей страны это продолжение. Если Чернобыль стал первым звонком, сообщившим об опасности укрощенной, казалось бы, силы "мирного атома", то после катастрофы японской "Фукусимы" многие страны серьезно задумались над тем, нельзя ли обойтись без этой силы?

Прежде всего обеспокоились в Японии, где до мая 2012 года постепенно вывели из эксплуатации 18 АЭС (54 реактора). Их закрыли для проверки, переоборудования и анализа местной сейсмической обстановки. Две АЭС уже вернули в сеть, остальным придется ждать завершения проверок до 2—3 лет.




Ядерная энергетика до катастрофы давала 29% энергии, нужной стране, и думали увеличить эту долю до 50% к 2030 году. Теперь об этом не может быть и речи. Доля возобновляемых источников энергии составляла 1%, и планируют довести ее до 15—25%. Это может быть солнечная энергия (сейчас ее доля в стране, самая северная точка которой лежит на широте Крыма, всего 0,01%), геотермальная (сейчас 0,3%), ветровая и энергия текущей воды. Первая "ветровая ферма" возникнет в Японии, насквозь продуваемой морскими ветрами, только к 2020 году. Использовать геотермальную энергию мешает тот факт, что большинство горячих источников находятся на территории заповедников и национальных парков, где строительство запрещено. Гидрологи наметили в стране 2700 мест, где можно возвести плотины ГЭС, но ясно, что в один-два года этого не случится.

Германия начала выход из атомной энергетики еще в 80-х годах прошлого века. Так, в 1988 году остановлена АЭС "Мюльхайм-Керлих", проработавшая к тому времени только 13 месяцев. Снос начали в 2004 году, и он еще далеко не закончен. Принятая в стране концепция демонтажа АЭС требует, чтобы на месте электростанции оставалась зеленая лужайка. Площадь, нуждающаяся в дезактивации, у каждой АЭС равна 20—30 футбольным полям. После сноса остается до полумиллиона тонн бетона и стали, и часть этой массы также нуждается в обезвреживании и захоронении стоков (утилизации). Поэтому процесс занимает десятилетия. Все АЭС Германии должны быть остановлены самое позднее в 2022 году. В США решено не строить новых АЭС и не выдавать лицензии на продолжение работы старых, пока не будет решена проблема хранения или утилизации их радиоактивных отходов. Когда это произойдет, никто сказать не может.

Еще один аспект атомной эры.

Несмотря на катастрофу АЭС в Фукусиме, до 2030 года к современным 435 ядерным реакторам мира добавятся, по оценке МАГАТЭ, от 90 до 350 новых, главным образом в Азии и в развивающихся странах. Возникает вопрос: надолго ли хватит урана для АЭС? Потребности в нем велики уже сейчас: так, в 2010 году мощности АЭС мира составляли 320 гигаватт, и они потратили 64 тысячи тонн урана. На каждый гигаватт АЭС, работающая без остановок, тратит за год 200 тонн урана. В настоящее время разведанные геологами запасы урановых руд способны обеспечить функционирование АЭС лет на сто, но только при условии, что новых реакторов строить не будут. Уже сейчас добыча урана покрывает лишь 60% спроса, остальное получают из ядерных боеголовок США и России (оружейный плутоний), списанных по договору об ограничении стратегических вооружений. К тому же здесь надо учесть два момента: что не начнется очередная гонка вооружений, навязанная США; и что российский оружейный плутоний был продан по "бросовой" цене Черномырдиным и Шеварднадзе тем же американцам.

Крупнейшими запасами урана обладают: Австралия (1.673.000 тонн), Казахстан (652.000 тонн), Канада (485.000 тонн), Россия (480.000 тонн). Если уран подорожает, а в этом сомневаться не стоит, так как станут разрабатываться менее богатые месторождения урановых руд, требующие больших затрат на добычу, тогда стоимость электроэнергии АЭС вырастет в несколько раз. А в перспективе даже не просматривается захоронение и утилизация радиоактивных отходов.

Сейчас и Росатом и МАГАТЭ выступают дружно в поддержку строительства АЭС в Беларуси. Их лоббизм понятен. Но скажите, почему они даже не заикаются о своей ответственности? Стоит только вспомнить, как МАГАТЭ вела себя после катастрофы на ЧАЭС. Очень четко просматривается дружная смычка между теми и другими для достижения одной цели, поставленной хозяевами глобализации.

Стоимость сооружения одного реактора около 5 миллиардов долларов. Но при оценке стоимости строительства АЭС в Беларуси в сводной смете не учтены следующие затраты.

Во-первых, после окончания срока службы станции в будущем для проведения работ по дезактивации и утилизации по аналогии с немцами неизвестно, во что это обойдется. Да и по времени это займет десятки лет.

Во-вторых, стоимость хранения радиоактивных отходов во время работы станции и после ее закрытия, то есть после дезактивации и утилизации конструкций самой станции. До настоящего времени (надо верить американцам) никем не разработана конструкция "могильников" для длительного (более 50 лет) безопасного хранения их. Тем более преждевременно вести разговор об их стоимости.

Учитывая вышесказанное, можно с уверенностью говорить о том, что не так уж дешева и безопасна электроэнергия, выработанная АЭС. По крайней мере сегодня пока обозначен вопрос о стоимости сооружения станции, а не создания зеленой лужайки по немецкому образцу после вывода станции из эксплуатации.

Скорее всего эта задача ляжет грузом на плечи наших потомков. В который раз срабатывает принцип: "После нас хоть трава не расти!" Не напоминает ли это ситуацию со строительством ГЭС в славные советские времена? Ведь до сих пор стоят целые рощи остовов деревьев у Саратова, мешая судоходству: их просто не успели убрать, как и целые затопленные поселки. А взять водохранилища у плотин ГЭС — Цимлянское, Каховское, Киевское, да и ряд водохранилищ Сибири. Затапливались ценнейшие черноземы. Те же немцы во время войны вывозили чернозем в Германию наравне с ценным сырьем. Знали цену ему. А тут затопили сотни и тысячи гектаров — и пусть "цветет" водичка.

Я как инженер-строитель понимаю, что остановить несущийся на полном ходу локомотив строящейся АЭС практически невозможно, но... учитывая написанное выше, хочется верить в чудеса — в альтернативную энергетику, да и в разум тоже.

**Владимир ЛОЙКО,**
**инженер-строитель.**

*г.Жодино.*

ДАТА

# Да здравствует Конституция!

*Когда это было?! Не верится, что прошло уже 20 лет с того дня, когда Верховный Совет Республики Беларусь 12-го созыва принял Конституцию (Основной закон) суверенного белорусского государства!*

Этот документ стал результатом трехлетней работы большого коллектива разработчиков, как депутатов парламента, так и лучших юристов страны.

Многие положения Конституции были предметом дискуссий. Одним из самых спорных был вопрос о введении должности Президента. Оппозиция от БНФ выступала категорически против этой должности, предвидя опасность диктатуры. Но коммунистическая фракция Верховного Совета и ее соглашатели пролоббировали включение в Конституцию института президентской власти.

По Конституции учреждался и Конституционный суд как гарант соблюдения Конституции. При парламенте создавалась Контрольная палата для контроля за расходованием бюджетных средств и использованием государственной собственности. Парламенту отводилась решающая роль при формировании правительства, Национального банка, Центризбиркома, "силовых" министерств и ведомств.

Республика Беларусь подала заявку на вступление в Совет Европы. Велась интенсивная работа по приведению законодательства в соответствие с европейскими стандартами.

Казалось, все у нас будет хорошо и ничто не помешает нашему демократическому развитию. Однако, как говорится, недолго музыка играла. На первых президентских выборах в мае 1994 года избрали президентом А.Лукашенко. Это и предопределило дальнейший ход истории. Начался поиск "особого" пути белорусского народа. Для этого пришлось трижды "подправлять" Конституцию: в мае 1995 г., в ноябре 1996 г. и в октябре 2004 года.

В результате проведенных "поправок" Конституция белорусского государства, считаю, превратилась в некое подобие конституции. Она лишилась национального содержания, демократических основ, гарантий осуществления прав человека. Из многофункционального "дерева власти" государство трансформировалось во власть одного лица. Граждане незаметно для себя стали подданными "его величества".

Для чего тогда вспоминать День Конституции и саму Конституцию 1994 года? Да потому, что она, на мой взгляд, сохранила свою легитимность. В соответствии с действующим тогда законодательством "поправки", предложенные на референдумах 1995, 1996 и 2004 гг., не могли быть предметом для голосования и получить юридическую силу. Что касается поправок в Конституцию на референдуме 1996 года, то Конституционный суд в своем решении от 4 ноября того года ясно указал, что такие вопросы не могут выноситься на обязательный референдум, о чем имелась отметка в бюллетене для голосования.

Так что мое мнение таково: Конституция 1994 года была и остается настоящей Конституцией белорусского государства и общества. Ее надо только оттереть от того, что к ней незаконно прилипло за прошедшие годы.

Да здравствует Конституция!

**Михаил ПАСТУХОВ,**
**судья Конституционного суда первого состава.**

НАПЯРЭДАДНІ

## *Дзе пройдуць мітынг і шэсце з нагоды 25 Сакавіка?*

*Сёння плануецца падаць заяўку на правядзенне шэсця і мітынгу з нагоды чарговай гадавіны абвяшчэння незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.*

Нагадаем, што так званы Дзень Волі ў Беларусі неафіцыйна адзначаецца 25 сакавіка, бо ў гэты дзень у 1918 годзе было абвешчана аб стварэнні БНР.

Арганізатары Дня Волі ў заяўцы ў Мінскі гарвыканкам будуць прапаноўваць такі план: збор у 18.00 на Акадэміі навук, у 18.30 распачнецца шэсце па праспекце Незалежнасці, а ў 19.30 — мітынг на плошчы Незалежнасці.

Па словах арганізатараў акцыі, асноўнымі тэмамі акцыі стануць абарона незалежнасці Беларусі, салідарнасць з Украінай, вызваленне палітвязняў.

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Требуем справедливой пенсии!

Статья 47 Конституции Республики Беларусь гласит: **"Гражданам Республики Беларусь гарантируется право на социальное обеспечение в старости, в случае болезни, инвалидности, утраты трудоспособности..."**

Как эта статья соблюдается на практике?

Нам, военным-ученым, в денежное довольствие при определении пенсий не были включены суммы доплаты за ученое звание и ученую степень. Эти доплаты к должностному окладу мы ежемесячно получали во время военной службы в Советской Армии в процентном отношении от должностного оклада (за кандидата наук — 15 процентов, за доцента — 10 процентов, за кандидата наук и доцента — 25 процентов и т.д.). И из этих доплат удерживались все виды налогов!

Когда с данным вопросом мы обратились в финансовые военные органы, там сослались на то, что в Законе от 17.12.1992 г. "О пенсионном обеспечении военнослужащих" в перечне составляющих выплат, участвующих при назначении пенсий, не говорится об офицерах, имеющих ученые степени и звания. Но это же игнорирование **статьи 7** этого же закона, в которой говорится, что в основе определения пенсий военнослужащих лежит Закон "О пенсионном обеспечении" от 17.04.1992 года. **А согласно этому закону в заработок для исчисления пенсий должны включаться все выплаты в денежном и (или) натуральном выражении.**

Указ Президента РБ от 27.09.2007 г. №450 "Об установлении доплат за ученые степени и звания" предписывает установить ежемесячные доплаты деканам (начальникам) факультетов и их заместителям, заведующим (начальникам) кафедр и их заместителям, профессорско-преподавательскому составу государственных учреждений образования. Эти доплаты суммируются с должностным окладом и учитываются при налогообложении.

К сожалению, Указом Президента от 07.04.2010 г. №175 внесены изменения и дополнения в Указ №450, согласно которым "доплаты за ученые степени доктора и кандидата наук военнослужащим... устанавливаются соответственно в размере 10 и 5 процентов от оклада денежного содержания. Доплаты за ученые звания профессора и доцента по месту военной службы (службы) за ученые степени и звания этим лицам не устанавливаются".

Нам, военнослужащим Советской Армии, вышедшим на пенсию до 1992 года, при определении размера пенсии не включались доплаты за ученые степени и звания **как до Указа Президента РБ от 27.09.2007 г. №450, так и до, и после Указа Президента от 07.04.2010 г. №175.**

В соответствии с Законом РБ "О государственной службе в РБ" от 14.06.2003 г. №204-3 (статья 44) в стаж государственной службы засчитывается: время предыдущей работы в качестве научных и научно-педагогических работников, имеющих ученую степень доктора или кандидата наук, ученое звание профессора или доцента. В законе сказано (статья 48), что заработная плата состоит из должностного оклада, надбавки за квалификационный класс, оклада по воинскому званию, оклада по персональному званию, надбавкам за выслугу лет, особые условия службы.

Размер ежемесячного денежного содержания подлежит перерасчету в связи с изменением заработной платы по соответствующей государственной должности.

Однако у бывших военнослужащих, имеющих ученую степень и звания, доплаты в должностной оклад, из которого исчисляются пенсии, к сожалению, **не пересчитываются**!

Каждый из нас имеет педагогический стаж от 25 до 48 лет, стаж воинской службы составляет от 25 до 35 лет. В СССР нам были установлены коэффициенты для исчисления должностного оклада от 5,02 до 6,4. В настоящее время для ветеранов Вооруженных сил, военных пенсионеров, занимавших определенные должности, установлены коэффициенты — не поверите — 2,50—3,07, что соответствует **должности техника, сантехника и старшего рабочего,** а не **декана, зав. кафедрой, профессора, доцента, старшего преподавателя**. Почему?

Старшим офицерам-пенсионерам присвоен класс по воинскому званию: майор — пятый, подполковник — четвертый, полковник — третий, генерал-майор — второй. Почему?

Нам всем уже за 75 лет. Но нам, в отличие от гражданских пенсионеров, не установлена надбавка к военной пенсии по достижении возраста 75 и 80 лет! Почему?

Мы надеемся, что соответствующие государственные структуры рассмотрят вопрос о формировании пенсий военнослужащих ветеранов, имеющих ученые степени и звания, и решат его на основе Конституции, законов и указов президента Республики Беларусь!!!

**Леонид Мефодьевич ЦЫГАНКОВ,**
**полковник, кандидат наук, доцент;**
**Александр Григорьевич ОНИЩУК,**
**полковник, доктор наук, профессор;**
**Сергей Петрович ТОЛМАЧЕВ,**
**полковник, кандидат наук, доцент;**
**Борис Дмитриевич ДОЛГОТОВИЧ,**
**подполковник, кандидат наук, доцент;**
**Анатолий Тимофеевич ГАРБУЗОВ,**
**кандидат наук, доцент.**

АБ'ЯВА

## *Супрацоўніца «Народнай Волі» шукае кватэру*

Паважаныя чытачы, журналіст нашага выдання апынулася ў складаным становішчы — тэрмінова патрэбна знайсці арэнднае жыллё. Магчыма, Вы, Вашы сваякі ці сябры здаяце прыстойную кватэру ў Мінску? Наша супрацоўніца з задавальненнем адгукнецца на Вашу прапанову! Патрабаванні да жылля мінімальныя: чысціня і знаходжанне недалёка ад транспартных вузлоў. Са свайго боку журналіст "Народнай Волі" гарантуе своечасовую аплату, захаванне вашага жылля ў належным стане, добрыя стасункі з суседзямі і акуратнасць.

Калі Вы жадаеце адгукнуцца на гэтае паведамленне, то, калі ласка, тэлефануйце ў прыёмную "Народнай Волі" па тэлефоне **(017) 328-68-71** ці на мабільны тэлефон **(25) 764-64-74.**

ХТО ЁСЦЬ ХТО

## *Ліс выступаў супраць пастановы Саўміна*

***Што вядома пра новага намесніка кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі Анатоля Ліса?***

***Г.МАКАРАВА, Мінск.***

Днямі сваім указам Аляксандр Лукашэнка зацвердзіў прызначэнне Анатоля Ліса намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Беларусі, вызваліўшы яго ад пасады памочніка прэзідэнта — галоўнага інспектара па Гомельскай вобласці.

Апошнім часам Анатоль Ліс паслядоўна падымаўся па службовай лесвіцы. З 2005-га па 2007 год ён быў намеснікам старшыні пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу па заканадаўстве і судова-прававых пытаннях, затым працаваў старшынёй Мазырскага райвыканкама, намеснікам міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.

У біяграфіі Ліса-чыноўніка ёсць і старонкі, якія сведчаць, што ён можа адстойваць меркаванні, якія разыходзяцца з пазіцыяй улады. Напрыклад, калі Ліс займаў пасаду намесніка міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, Савет міністраў выдаў пастанову "Аб некаторых пытаннях здабычы торфу і аптымізацыі сістэмы асабліва ахоўных прыродных тэрыторый". Згодна з дакументам, пад распрацоўку торфу падпадалі тэрыторыі заказнікаў рэспубліканскага значэння. І менавіта Ліс ад імя Мінпрыроды адстойваў на ўзроўні ўрада і прэзідэнта пазіцыю, што асушваць балоты ў Беларусі непрымальна. Ён неаднойчы падкрэсліваў, што беларускія балоты неабходна аднаўляць, а не асушваць.

Дарэчы, новую пасаду ў Адміністрацыі прэзідэнта можна лічыць падарункам Анатолю Лісу да дня народзінаў. 1 сакавіка яму споўнілася 56 гадоў.

Анатоль Ліс — беларус, нарадзіўся ў вёсцы Раўкі Мастоўскага раёна Гродзенскай вобласці. Мае дзве вышэйшыя адукацыі — інжынера-механіка і палітолага. Жанаты, ёсць дачка і сын.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

СЛОВЫ РАЗВІТАННЯ

# У лучнасці з Небам

Было гэта ўжо каля 20 гадоў таму. Рыгор Іванавіч Барадулін патэлефанаваў мне дадому і прачытаў у тэлефонную трубку верш, у якім, сярод іншага, былі такія радкі:

*Жыві самотна.*
*Без цябе*
*Тваё жыццё хутчэй прамчыцца.*
*І, можа, цельная ваўчыца*
*Завые ў лесе не ў жальбе,*
*А ў радасці,*
*Што ўсё яшчэ*
*Трывацьме доўга*
*Род ваўчыны —*
*І пах крыві,*
*І дух аўчыны*
*Халодны голад урачэ.*

*Жыві няўтульна.*
*Дабрабыт*
*Цябе ў сваё нутро зацягне,*
*І глухнуць будзеш,*
*Як у багне,*
*І прагнасць свой пакажа спрыт.*

Сказаў, што збіраецца друкаваць гэты верш з прысвячэннем мне, а пазней так і зрабіў.

Праніклівыя, метафарычныя словы дзядзькі Рыгора сталі тады для мяне не проста паэтычнымі радкамі, а тым, ад чаго адступіцца было немагчыма, — як немагчыма было адступіца ад таго, што некалі казаў мне Васіль Быкаў.

Штогод 4 сакавіка я калі святкую, а калі і не святкую свой дзень нараджэння. Дзень 4 сакавіка 2014 года, калі сумленная і не глухая да Слова Беларусь развітвалася са сваім Народным Паэтам, цяпер, відаць, назаўсёды памяняў маё жыццё. Бо ўжо аж да самага яго канца няможна будзе ў свой дзень нараджэння не ўзгадваць гэты жалобны дзень гэтага года...

Наш аўтобус, пасажырамі якога былі пісьменнікі, паэты, іншыя творцы і проста не абыякавыя да вешчага барадулінскага слова людзі, ехаў з Мінска ва Ушачы, дзе цела Паэта павінна было знайсці свой апошні прытулак. Недзе раз-пораз успыхвала размова: маўляў, дзяржаўныя ўлады праігнаравалі развітанне з Рыгорам Барадуліным у Мінску. Немагчыма было не ўзгадаць гісторыю, калі дзесяць з паловай гадоў таму Беларусь хавала Васіля Быкава. Тады ўлады хацелі ператварыць жалобную цырымонію ў афіцыёз, а ў выніку вялікага сына зямлі беларускай пахаваў Народ (што было названа адным вядомым дзярждзеячам "палітычнай вакханаліяй"). Пахаваў без удзелу гэтых самых улад. "Добра, — сказаў я маладзейшым калегам у аўтобусе, — што гэтым разам ні ў кога і не было асаблівых ілюзій наконт таго, што ўлада ў прынцыпе можа па-людску арганізаваць праводзіны Рыгора Барадуліна ў апошнюю дарогу. Абыдземся без іх! Бо найперш менавіта з-за іх не здзейснілася мара Паэта: *"Калі не жыць, дык хоць памерці у беларускай Беларусі*". "Вяршыцелі беларускіх лёсаў" добра ведалі, як называў і характарызаваў іх паэт-нябожчык і, мусіць, употайкі радаваліся, даведаўшыся, што Народны Паэт пажадаў, каб яго цела аддалі зямлі не ў Мінску, а побач з магілай маці, ва Ушачах. Любому ж чыноўніку хочацца "абы ціха было".

...Жалобная цырымонія ва Ушачах пачалася каля дома па вуліцы Школьнай, у якім кожнае лета і кавалак кожнай восені, аж да 2011 года, жыў і тварыў Барадулін (апошнія два леты прыехаць ужо не дазваляла нездароўе). Трэба аддаць належнае ўладам Ушацкага раёна: яны ўзялі на сябе пэўную частку клопату, каб хоць там не было перашкод зрабіць усё па-людску. Што праўда, у немалой грамадзе, якая сабралася каля дома на Школьнай і ў якой было нямала барадулінскіх суседзяў і землякоў, папаўзлі чуткі, нібыта дырэктар мясцовай школы забараніў яе вучням ісці развітвацца з паэтам. Так гэта ці не, напраўду не ведаю, але дзяцей школьнага ўзросту там сапраўды асабліва відаць не было.

Не раз публічна выказанай воляй Рыгора Барадуліна было, каб пахавалі яго пад бел-чырвона-белым сцягам. Таму вядомы пісьменнік, зямляк Рыгора Барадуліна Уладзімір Арлоў прывёз з сабою з Мінска той самы сцяг, якім накрывалі труну Васіля Быкава ў 2003 годзе. І барадулінская дамавіна да самага моманту апускання яе ў магілу была акрытая тым самым сцягам...

Малітвы, якія адпраўлялі святары на чале з апостальскім візітатарам для беларусаў грэка-каталіцкага абраду архімандрытам Сяргеем Гаекам, словы сяброў, калег-творцаў і простых людзей — землякоў Паэта, гукі духоўнага гімна "Магутны Божа" стварылі адчуванне ўсеагульнага яднання з Вечнасцю, у якую адышоў Геніяльны Творца і непаўторны ў сваёй натуральнасці Беларус. Адышоў, на жаль, пакінуўшы нас сам-насам з велізарнай грамадой сваіх суайчыннікаў, у якіх за ўсё жыццё так і не ўзнікла ўнутранай патрэбы задумацца над тым, што яны мелі шчасце быць сучаснікамі Васіля Быкава і Рыгора Барадуліна, вывучаць па іх творах старажытную крывіцкую мову... Зрэшты, зрабіць гэта ніколі не будзе позна: напісанае і прамоўленае вялікімі творцамі і сябрамі застаецца з намі. Абы толькі гэта захацелася прачытаць ды пачуць і абыякавым, і глухім, і сляпым.

...Неўзабаве пасля пахавання Паэта ўзышоў маладзік. Не той "маладзік над стэпам", які даў назву самай першай з амаль сотні барадулінскіх кніг. Гэты маладзік заззяў над палітай крывёю і потам шматпакутнай полацка-вушацкай зямлёю. Лучнасць соцень людзей з Небам, што збіраецца прыняць душу Рыгора Барадуліна, працягвалася...

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

*Мінск—Ушачы, 4 сакавіка 2014 г.*

